Наша Свабода
№103(190) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА
21 ВЕРАСНЯ 2001 года ПЯТНІЦА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103
тэл. 228-69-18, 210-02-53
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Наш «МАЗ» ператворыцца ў «Сібалюм»


Першая машына маркі «МАЗ», выробленая ў Мінску

## Сярод ахвяраў тэрактаў у ЗША ёсць беларусы

Сярод магчымых ахвяр нападу тэрарыстаў на Сусветны гандлёвы цэнтр (СГЦ) у Нью-Йорку (ЗША) была беларуская грамадзянка, паведаміў 20 верасня на брыфінгу ў Мінску прэс-сакратар міністэрства замежных спраў Беларусі Павел Латушка.

Паводле інфармацыі беларускага МЗС, грамадзянка Беларусі, якая працавала ў адным з будынкаў цэнтра, была на працы 11 верасня, калі два самалёты, выкрадзеныя тэрарыстамі, урэзаліся ў гэтыя хмарачосы. На сёння жанчына знаходзіцца ў спісах тых, хто знік, паведаміў сп. Латушка. Паводле ягоных слоў, сваякі зніклай жанчыны прасілі не агалошваць яе імя і інфармацыю аб месцы яе працы.

Нагадаем, што 19 верасня, выступаючы са зваротам да грамадзян Беларусі, пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак упершыню паведаміў, што сярод магчымых ахвяр тэрактаў у ЗША ёсць і беларускія грамадзяне. «Наколькі нам вядома, сярод зніклых ёсць некалькі грамадзян Беларусі, і нашы сэрцы зараз з сем'ямі гэтых людзей, – сказаў пасол. – Мы спадзяемся і молімся аб тым, што іх удасца знайсці і, што яны не сталі ахвярамі гэтых жудасных тэрактаў».

Прадстаўнікі пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі тады паведамілі БелаПАН, што звесткі аб тым, што сярод зніклых ёсць грамадзяне Беларусі, узятыя з інтэрнэт-сайта Дзяржздэпартамента ЗША.

**Аляксей ЗНАТКЕВІЧ**

## Выданне «Свободных новостей» прыпыненае

18 верасня асноўны ўладальнік акцый беларускага штотыднёвіка «Свободные новости» Сяргей Атрошчанка заявіў аб прыпыненні выпуску выдання і звальненні яго галоўнага рэдактара Аляксандра Уліцёнка. Як паведаміў БелаПАН Аляксандр Уліцёнак, гэтае паведамленне Атрошчанка даслаў па факсе. Спробы звязацца з ім па тэлефоне, у тым ліку мабільным, поспеху не мелі.

«Рашэнне Атрошчанкі мы расцэньваем як незаконнае, – заявіў Уліцёнак. – Перад тым як зрабіць такі крок, ён павінен быў хаця б параіцца з іншымі заснавальнікамі – мною і двума маімі намеснікамі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Дажынкі ў Мазыры перанесьлі на тыдзень

Прызначаныя ў Мазыры «Дажынкі» пераносяць на тыдзень. Адны гэта зьвязваюць з супадзеньнем «Дажынак» з інаўгурацыяй Лукашэнкі, другія – з адсутнасьцю грошай на масавыя шоу.

Раней мазырскія ўлады размахнуліся на досыць шырокую праграму падрыхтоўкі да «Дажынак». За кошт рэспубліканскага бюджэту яны наважваліся паправіць справы і з выглядам гораду, і з яго занядбанай камунальнай гаспадаркай. Праграма пацягнула ажно на 2 мільярды рублёў. Прэм'ер-міністар Ярмошын распарадзіўся выдаткаваць на «Дажынкі» толькі 2 мільярды рублёў, прычым зь іх 160 мільёнаў аддаць раёну на добраўпарадкаваньне дарогі да саўгасу-камбінату «Зара», які павінен наведаць Аляксандар Лукашэнка.

У горадзе коштам рэспубліканскіх сродкаў упарадкавалі толькі цэнтральныя і прымаставыя пляцы. Аднаўляць Прыпяцкі парк ля Прыпяці, некаторыя ходнікі і вуліцы, рамантаваць цеплацеткі даводзіцца за кошт будаўнікоў і камунальнікаў, ім за рамонтавыя і будаўнічыя работы горад ужо вінаваты каля 500 мільёнаў рублёў. Загадчыца фінансавага аддзелу гарвыканкаму Сьвятлана Ліс паведаміла: «На жаль, бюджэт гораду мы не выконваем, за 9 месяцаў ня выйдзем на патрэбны збор сродкаў, таму зь бюджэту мы зараз будаўнікам нічога ня зможам даць».

Пакуль ня ведаюць гарадзкія ўлады, якім чынам аплочваць мастацкае афармленьне і нэонавае асьвятленьне гораду, не выручаюць і так званыя фундатарскія зборы з прадпрыемстваў і філіяў банкаў. Важкі ўклад зрабіў толькі нафтаперапрацоўчы завод – 300 мільёнаў рублёў, якія накіравалі на рэканструкцыю Кургана Славы. Рэшта ж агулам зьмагла сабраць усяго 80 мільёнаў.

Фінансавы стан прадпрыемстваў надзвычай цяжкі. Між тым, праз тыдзень Мазыр павінен прыняць да 5 тысяч гасьцей. Разьмяшчаць прыежджых прыйдзецца нават у навакольных райцэнтрах. Гандлёвых работнікаў наогул паселяць у 50 вагонах на прыгараднай чыгуначнай станцыі «Козенкі». 600 супрацоўнікаў міністэрства ўнутраных справаў, якія будуць ахоўваць «Дажынкі», таксама разьмесьцяць у вагонах, але ўжо на станцыі ў Калінкавічах. Вазіць іх павінны за свой кошт аўтатранспартныя прадпрыемствы, на што спатрэбіцца як мінімум 15 тонаў паліва.

**Радыё «Свабода»**

# Лукашэнка ўступіў у прэзідэнцтва

## *«Каранацыя» адбылася*



Вайскоўцы навучаюць прысягаць прэзідэнту

*20 верасня ў Мінску ў Палацы Рэспублікі і на Кастрычніцкай плошчы прайшла цырымонія інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі на пасадзе прэзідэнта Беларусі.*

Нагадаем, паводле афіцыйных дадзеных Цэнтрвыбаркама, Лукашэнка перамог на прэзідэнцкіх выбарах у першым туры: ён набраў 75,65% галасоў і апярэдзіў кандыдата ад дэмакратычных сілаў Уладзіміра Ганчарыка, атрымаўшага крыху больш за 15%. Хоць штаб Ганчарыка настойвае на тым, што павінен быў быць другі тур выбараў. «Незалежнае назіранне», якому ўлады збольшага сарвалі працэс нагляду за ходам выбараў, таксама схіляецца да высновы, што найбольш аб'ектыўныя вынікі галасавання ў першым туры – гэта пераход кандыдатаў У.Ганчарыка і А.Лукашэнкі ў тур другі.

Але Аляксандр Лукашэнка, забяспечыўшы сабе афіцыйна «элегантную» перамогу з дапамогай выкарыстанага напоўніцу адміністрацыйнага рэсурса, і ЦВК аніякай увагі вымогам апазіцыі наладзіць другі тур выбараў не надалі. Больш за тое ўслед за абвешчанай перамогай Аляксандра Лукашэнкі на выбарах, у раздутых памеры якой мала хто ў Беларусі верыць, была арганізавана на ўцеху яму гэткая ж – на шырокую нагу – інаўгурацыя.

Ад самага ранку 20 верасня ў цэнтры Мінска на людзей абрынуліся нязручнасці перасоўвання па горадзе – ад транспартных пробак да ачэпленай Кастрычніцкай плошчы. На яе і ў Палац Рэспублікі, як заўжды на мерапрыемствах з удзелам А.Лукашэнкі, пусцілі павітаць яго толькі выбраных. Гэта чыноўнікі вышэйшых рангаў, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў і члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, дзяржсакратар Саюза Беларусі і Расіі Павел Барадзін, спікер Расійскай Дзярждумы Генадзь Селязнёў, прадстаўнікі дыпламатычнага корпуса. Праўда, не ўсе.

*Заканчэнне на стар.3*

## Ураджайнасць бульбы ўпала

Сёлета ў Беларусі ўраджайнасць бульбы не тая, што летась. Паводле інфармацыі міністэрства сельскай гаспадаркі, на стан 17 верасня накапана 156,9 тысячы тонаў «другога хлеба». У мінулым годзе ўраджай бульбы склаў амаль 304 тысячы тонаў. На сённяшні дзень найлепшую ўраджайнасць мае Гродзенская вобласць – 158,1 цэнтнера з гектара. Самыя дрэнныя паказнікі на Віцебшчыне – 80,7 цэнтнера з гектара.

## Нафтавая запазычанасць

Аб'ёмы паставак расійскай нафты на беларускія нафтаперапрацоўчыя заводы ў жніўні 2001 года склалі 984 тысячы тонаў. Гэта 89% у параўнанні са жніўнем мінулага года. Прычына ў недахопе сродкаў на нафтавыя закупкі з-за неплацёжаздольнасці спажыўцоў нафтапрадуктаў унутры краіны. Напрыклад, сельскагаспадарчыя прадпрыемствы маюць запазычанасць перад «Белнафтахімам» у памеры 23 мільёны рублёў.

## Штрафы за дрэнную ахову працы

У выглядзе штрафаў за парушэнні працоўнага заканадаўства і правілаў па ахове працы за студзень-жнівень гэтага года ў Беларусі прыцягнута да адміністратыўнай адказнасці амаль 6 тысяч службовых асобаў. З іх спагнана больш за 26 мільёнаў рублёў.

## Паліва для ўраджаю

Дзяржаўны камітэт па матэрыяльных рэзервах адпусціць калгасам, саўгасам і іншым сялянскім гаспадаркам у выглядзе таварнага крэдыту 20 тысяч тонаў дызельнага паліва.

Паліва выдзяляецца для забеспячэння ўборкі ўраджаю ў гэтым годзе.

## Рэйтынг футбольнай зборнай Беларусі ўзрос

Зборная Беларусі па футболе ўзнялася на чатыры прыступкі ў штомесячным рэйтынгу Міжнароднай федэрацыі футбола. Беларусь зараз займае 82-і радок. З краінаў СНД Расія стаіць на 24-ым месцы, украінцы – на 33-ым месцы. На першым радку – французы, далей ідуць Бразілія і Аргентына.

## Мемарыялу «Брэсцкая крэпасць» – 30 гадоў

25 верасня мемарыяльны комплекс «Брэсцкая крэпасць-Герой» адзначыць 30-ю гадавіну з дня свайго адкрыцця. Зараз тут рэстаўруюцца шмат якія аб'екты. Гэта плошча Цырыманіялаў, штых-абеліск, скульптурная кампазіцыя «Смага».

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»** 1500

## Макраэканамічныя прагнозы

Паводле прагнозу асноўных макраэканамічных параметраў сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на наступны 2002 год, складзеным у міністэрствах эканомікі і фінансаў, індэкс спажывецкіх коштаў у 2002 годзе будзе на ўзроўні каля 130%, а штомесячная інфляцыя прагназуецца блізу 2%. Пры гэтым тэмпы росту рэальных даходаў насельніцтва прагназуюцца на 106%.

Мінімальная заработная плата ў наступным годзе будзе даведзена да 11.500 рублёў (цяпер 7.500), а стаўка першага разраду – 23.000 рублёў, сярэдні заробак па народнай гаспадарцы – 178.000 рублёў.

Курс долара на канец 2002 года, як мяркуецца, складзе дзесьці 1.900 беларускіх рублёў.

**Кірэй МАНУЙЛА**

ВУЧОБА

## Малады Фронт выхоўвае ды-джэяў

Незарэгістраваная арганізацыя Малады Фронт аб'явіла аб правядзенні з 1 кастрычніка курсаў па падрыхтоўцы «ды-джэяў Адраджэння».

Як паведамляецца ў прэс-рэлізе Маладога Фронту, у праграме гэтых трохмесячных бясплатных курсаў – падрыхтоўка людзей ва ўзросце 15-25 гадоў па пытаннях шоў-бізнесу і псіхалогіі, *Public Relations* і масавай культуры, музыкі і нацыянальнай ідэі. Па выніках курсаў з ліку прыкладна 70 удзельнікаў, адабраных з дапамогай тэстаў, конкурсаў і рэйтынгаў, будуць вызначаны 24 ды-джэі, якія атрымаюць адпаведныя сертыфікаты.

Яны зоймуцца правядзеннем шоу, дыскатэк, будуць выступаць у тэле- і радыёэфіры, распрацоўваць праекты. Як адзначаецца ў прэс-рэлізе, задача курсаў – падрыхтаваць маладых людзей, здольных быць лідэрамі нацыянальнага Адраджэння.

**Аляксей АРЭШКА**

## Яд «Беларусь» страціла на выбарах

9 верасня 2001 года ў зводку МУС патрапіла інфармацыя аб буйным крадзяжы ў аграфірме «Беларусь» Кобрынскага раёна. З-пад трох замкоў умацаванага сховішча невядомыя вынеслі ў пластыкавых каністрах 400 літраў «Бетанал-прагрэсу», за які гаспадарка заплаціла амаль 19 мільёнаў рублёў.

Ці была гэта правакацыя дзеля панікі перад выбарамі альбо здзек над страчанай пільнасцю за дабром, калі ўсе кіраўнікі каравулілі галасы пенсіянераў і падначаленых на ўчастках, не было нікому вядомым да мінулай серады. А з серады, 19 верасня, у ізалятар часовага ўтрымання Кобрынскага гаррайаддзела міліцыі змешчаныя З.Л.,1970 года нараджэння, Ю.Л., 1978 г.н. Непаўналетні С.С. з вёскі Яўрэмічы пакінуты пад хатнім арыштам. Усе трое з'яўляюцца працаўнікамі кобрынскага ААТ «Мармур» і абвінавачваюцца ў цяжкім злачынстве: крадзёж з пранікненнем у буйным памеры.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Сямён Домаш праходзіць курс рэабілітацыі

Пасля больш чым паўмесячнага знаходжання ў 1 клінічнай бальніцы г. Мінска, днямі Сямён Домаш быў накіраваны ў кардыялагічную здраўніцу «Крыніца» для рэабілітацыі і поўнага выздараўлення.

Нагадаем, што на наступны дзень пасля запісу свайго выступу на Беларускім тэлебачанні, які адбыўся 20 жніўня, былы кандыдат на прэзідэнта Рэспублікі Беларусь пачуўся кепска. У наступныя дні болі сталі праяўляцца часцей, рэзка падвысіўся артэрыяльны ціск.

Трэба адзначыць, што перад гэтым выпадкам Сямён Мікалаевіч на падобныя праблемы са здароўем не скардзіўся. 27 жніўня з вострым сардэчным прыступам ён быў дастаўлены ў рэанімацыйнае аддзяленне 1 гарадской клінічнай бальніцы г. Мінска. А 4 верасня з дыягназам «ачаговы інфаркт міякарда» быў пераведзены ў інфарктнае аддзяленне гэтай жа бальніцы для далейшага лячэння.

На сённяшні дзень самаадчуванне Сямёна Мікалаевіча значна палепшылася. У размове з журналістамі ён заявіў: «Пасля курса рэабілітацыі і поўнага выздараўлення я збіраюся актыўна ўключыцца ў грамадска-палітычнае жыццё краіны».

**Андрэй КУСЯЛЬЧУК**

## Нулявы кіламетр магістралі «Е-30»

На старых дарожных указальніках ля гарадской мяжы Брэста зафарбаваны надпіс, што гэта пачатак галоўнай аўтамагістралі Беларусі, якая праходзіць праз Мінск да мяжы з Расійскай Федэрацыяй. Новая стрэлка і ў зялёным квадраце «Е-30» прыцягвае ўвагу кіроўцаў, што нулявы кіламетр еўрапейскай трасы на Беларусі змешчаны да памежнага пераходу «Казловічы».

Каб праезная частка адпавядала міжнароднаму стандарту, зараз тут пачаты капітальны рамонт. Да лістапада 2002 года асфальтаванае палатно павінна быць пашыранае да 25 метраў. Пакуль нідзе не афішыруецца, але ўжо існуе ў праекце будаўніцтва новага пункта для збору дарожнай аплаты на першых метрах беларускай тэрыторыі. Цяпер, як вядома, гэта адбываецца на 29-м кіламетры ў Федзькавічах, што, не сакрэт, дае магчымасць «дальнабойшчыкам» аб'ехаць кантрольныя шлагбаўмы на платнай магістралі «левымі» шляхамі.

**Мікола НЯЗЛОМНЫ**

ЛЮСТРАФАКТ

Прадстаўнікі малога бізнесу вяртаюцца дахаты пасля чарговага працоўнага дня

## Пяць дзён «старога» кіно

У цяперашняга беларускага кіно не хапае сілы і сродкаў, каб свой адзіны ў два гады фестываль забяспечыць маштабна, як гэта было раней, хаця б у двух гарадах – сталіцы і абласным цэнтры. Сёлетняя імпрэза з афіцыйным назовам 3-ці Нацыянальны фестываль беларускіх фільмаў пачнецца 22 верасня ў Брэсце і тут закончыцца 26 верасня. Але нават каб запоўніць гэты няпоўны тыдзень выязнога адпачынку ў Белавежжы акцёраў (больш-менш вядомыя з іх расійскія, як, прыкладам, стваральнік за беларускія грошы трох серый «Любіць па-руску» Яўген Мацвеяў), арганізатарам давялося «ачысціць» з паліцаў кіналенты з усіх студый – ад студэнцкіх, «Тэлефільма» БТ, кампаніі «Відэафакт», прадпрыемства «Беларускі відэацэнтр» і г.д. Кінастудыя «Беларусьфільм» будзе дэманстраваць усяго адну прэм'еру – «Свежаніна з салютам» рэжысёра І.Паўлава. А дзеля касавага збору беларускага фэсту з Масквы прывезеныя для паказу па-за конкурсам, а па сутнасці, каб рэкламаваць, фільмы А.Янкоўскага і М.Аграновіча «Прыйдзі на мяне паглядзець» і Д.Астраха на «Падары мне святло месяца».

**Галіна БАРАВАЯ**

## Захады супраць язвы

У сувязі з ускладненнем эпідэміялагічнай абстаноўкі па сібірскай язве ў шэрагу абласцей Украіны рэспубліканская санітарна-эпідэміялагічная служба прыняла шэраг мер па прафілактыцы гэтага захворвання на Беларусі.

У ветлабараторыях па выяўленню ўзбуджальніка захворвання ў жывёл (у тушах), каўбасных цэхах, жывёлабойных пунктах і мясакамбінатах былі праведзены пазапланавыя праверкі. Падчас рэйдаў па спыненню гандлю мяснымі прадуктамі ў неўстаноўленых месцах 717 чалавек былі прыцягнуты да адказнасці.

**Вольга АСІПЕНКА**

МЕДЫЦЫНА

## Пад навалай інфекцыяў

Беларусь мае самы нізкі ўзровень інфекцыйных захворванняў сярод усіх краінаў СНД. Так, па словах дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута эпідэміялогіі і мікрабіялогіі Леаніда Цітова, лічаць міжнародныя спецыялісты, што наведвалі нашу краіну.

Разам з тым у нас захоўваецца напружаная сітуацыя з кішэчнымі інфекцыямі, грыпам, сухотамі і інфекцыйнымі захворваннямі, якія перадаюцца палавым шляхам.

Штогод 1,5 мільёна беларусаў хварэюць на грып, а колькасць хворых на сухоты за 10 год узрасла амаль удвая: з 24 хворых на 100.000 насельніцтва да 44 хворых. Сярод палавых хваробаў лідзіруюць сіфіліс, ганарэя і ВІЧ-інфекцыі, і ў той час, калі ў барацьбе з першымі дзвюма хваробамі ёсць некаторыя поспехі, то па ВІЧ-хваробах сітуацыя толькі пагаршаецца.

Трэба адзначыць, што ўзбуджальнікі інфекцыйных захворванняў з часам эвалюцыянавалі. Зараз яны могуць стаць прычынай ракавых і сасудзістых захворванняў. Гепатыт, напрыклад, аказвае ўздзеянне на пячонку, і, як сведчыць сусветны вопыт, 30% перасадак пячонкі адбываецца менавіта праз гепатыт.

**Маргарыта МАЙСТРАВА**

ІЛЮМІНАЦЫЯ

## КДБ стане святлей

Толькі 0,03% спажыванай сталіцай электраэнергіі ідзе на асвятленне вуліцаў, ілюмінацыю і падсветку будынкаў. Гэта прыкладна 68 тысяч кропак святла. На думку дырэктара УП «Мінгарсвятло» Валерыя Шкіранды, эканомія на асвятленні вуліц прыводзіць толькі да павелічэння колькасці дарожна-транспартных здарэнняў, злачынных замахаў і траўматызму людзей. Замежныя спецыялісты падлічылі, што эканамічны эфект ад вулічнага асвятлення ў 3 разы перавышае выдаткі на яго. Таму зараз ад ранейшай практыкі эканоміць электраэнергію ўначы (з 1 да 6 гадзін ночы асвятленне кварталаў перапынялася) «Мінгарсвятло» адмовілася.

Каб надаць начному Мінску выгляд цывілізаванага сталічнага горада, на фасадах 22 будынкаў уздоўж праспекта Ф.Скарыны ўсталявана падсвятленне. На жылых дамах гэта робіцца за кошт гарадскога бюджэту, а гаспадары іншых будынкаў, як то Нацыянальны банк ці Галоўпаштамт, і дызайн-праект, і ўстаноўку ліхтароў аплачваюць з уласнай кішэні. Паціху ўласнымі сіламі свой будынак падсвятляюць МУС, прэзідэнцкая рэзідэнцыя, а хуткім часам ліхтарыкі з'явяцца на будынку КДБ.

Адзінае, што крыху псуюць выгляд многіх будынкаў, цёмныя першыя паверхі. Першапачаткова планавалася, што яны будуць асвятляцца афармленнем вітрынаў ці рэкламай тых установаў, якім яны належаць. Але, як адзначыў Валерый Шкіранда, фірмы на электраэнергіі эканомяць, таму падобныя спадзяванні не апраўдаліся.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

ХАРЧАВАННЕ

## Шлях да хваробаў ляжыць праз страўнік

Адна з прычынаў слабога здароўя беларусаў – іх нездаровае харчаванне. Паводле словаў дырэктара Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра па экспертнай ацэнцы якасці і бяспечнасці прадуктаў харчавання Валерыя Мураха, у Беларусі адсутнічае сістэма ацэнкі якасці прадуктаў харчавання, якімі нас забяспечвае харчовая прамысловасць. Таму прадукты, якія трапляюць на наш стол пасля жорсткай тэхналагічнай апрацоўкі, замест карысных мікра- і макраэлементаў утрымліваюць у сабе ядахімікаты і радыянукліды. Усе гэтыя рэчывы плюс антыбіётыкі спецыялісты, зрабіўшы аналіз, знайшлі нават у грудным малацэ жанчыны, якім яна корміць немаўля.

Пакуль не адбудзецца рэформа гэтай сістэмы, лічыць Валерый Мурах, у беларусаў не будзе і здароўя. Нешта зменіць толькі мэтанакіраваная палітыка дзяржавы ў галіне харчавання. Для пачатку трэба пачаць абагачаць прадукты харчавання мікра- і макраэлементамі (селенам, жалезам, цынкам), есці больш мяса, рыбы і вітаміна С.

**Алена ЛАБАНАВА**



ГАНДАЛЬ

## Добрая ўпакоўка захоўвае прадукт

Актывізаваць працу беларускіх вытворцаў харчовых прадуктаў па выкарыстанні найноўшых тэхналогіяў упакоўкі і ўпаковачных матэрыялаў – асноўная мэта міжнароднага семінара «Найноўшыя тэхналогіі і матэрыялы для ўпакоўкі ў харчовай прамысловасці». Гэты семінар, арганізаваны рэдакцыяй часопіса «Тэхналогіі перапрацоўкі і ўпакоўкі» пры падтрымцы канцэрна «Белдзяржхарчпрам», праходзіць 19 верасня ў Мінску ў рамках міжнароднай спецыялізаванай выставы «Свет упакоўкі – 2001».

Паводле словаў рэдактара аддзела інфармацыі часопіса Ганны Сцепаненкі, рэзкае ўзмацненне канкурэнцыі сярод вытворцаў прадуктаў харчавання ў апошнія гады прымушае клапаціцца не толькі аб якасці прадукцыі, але і аб тары, упакоўцы і этыкетцы для яе. Актуальнае стварэнне зручнай і надзейнай упакоўкі, якая павінна не толькі мець прывабны дызайн, але і максімальна забяспечваць захаванасць прадукту, быць экалагічна бясшкоднай і лёгка ўтылізавацца. У многіх краінах, якія развіваюцца, страты прадуктаў харчавання сёння складаюць 25-30%, у той час як у развітых краінах, дзе сучасная тэхніка і тэхналогія ўпакоўвання дазваляюць звесці такія страты да мінімуму – усяго 2-3%. Увагу даследчыкаў прыцягваюць гігіенічнасць і экалагічная бездакорнасць так званай упакоўкі, якая выраблецца з харчовых кампанентаў ці водарастваральных нетаксічных рэчываў.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

## Вінная палітыка

Алкагольныя напоі моцай вышэй за 28 градусаў будуць паступова выцясняцца з віна-гарэлачнай вытворчасці высакаякасным віном, слабаалкагольнымі напоямі і півам. Такія захады былі зацверджаны яшчэ год таму ў дзяржаўнай праграме нацыянальных дзеянняў па папярэджанні і пераадоленні п'янства і алкагалізму, а на гэтым тыдні іх прадэклараваў ужо як накірунак харчовай вытворчасці прэзідэнт канцэрна «Белдзяржхарчпрам» Віктар Казека.

У Беларусі алкагольныя напоі выробляюць 77 заводаў агульным аб'ёмам 6,7 мільёна дэкалітраў штогод. Па выніках гэтага года іх вытворчасць ужо скарацілася на 18%, за ёй падае і спажыванне.

Што да якаснага віна, то яго вытворчасць зараз стратная з-за існуючага механізма ўсталявання на іх коштаў. Звычайныя пладовыя віны са спірту і канцэнтраванага соку гатуюцца 31 дзень. Віны больш высокай якасці маюць досыць доўгую тэхналогію вытворчасці – ад 100 да 365 дзён. За гэты тэрмін інфляцыйныя працэсы паспяваюць абясцэніць кошты тых сыравінных рэсурсаў, якія ўваходзяць у сабекошт віна, а правесці іх даацэнку вытворцам нельга. Натуральна, каб не рызыкаваць грашыма, вытворцы такія віны і не выробляюць.

**Алена ПАЗЬНЯК**

## Міністэрства адукацыі абяцае

У мінадукацыі абяцаюць стварыць нарматыўную базу, якая вырашыць праблемы, узнікшыя ў Светлагорску з філіялам Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа. Пра гэта БелаПАН паведаміў дырэктар філіяла Тэльман Маслюкоў.

Нагадаем, што 11 верасня загадчыцай аддзела адукацыі Светлагорскага гарвыканкама Галінай Філіповіч быў выдадзены загад аб закрыцці філіяла ліцэя. Згодна з загадам, усе ліцэісты павінны быць пераведзены ў склад вучняў СШ № 1 Светлагорска, а адзін з будынкаў ліцэя перадаецца Дому дзіцячай і тэхнічнай творчасці. У загадзе ўсё гэта падаецца як «рэарганізацыя навучальнай установы». Аднак паводле неафіцыйнай версіі, падставай для закрыцця філіяла ліцэя стала арганізаваная там 7 верасня сустрэча вучняў, настаўнікаў і гарадской інтэлігенцыі з непажаданымі ўладам пісьменнікамі і бардамі. З 17 верасня спынена фінансаванне светлагорскага філіяла і аплата працы выкладчыкаў, ліцэістаў цяпер не кормяць у школьнай сталоўцы. Нягледзячы на гэта, заняткі ў ліцэі не спыняюцца, выкладчыкі працуюць бясплатна.

Як сказаў Т.Маслюкоў, пытанне аб лёсе светлагорскага філіяла ліцэя, магчыма, будзе неўзабаве станоўча вырашана ў сувязі з уступленнем у сілу палажэння аб філіялах агульнаадукацыйных навучальных установ, якое зараз распрацоўваецца ў мінадукацыі.

Як паведаміў дырэктар філіяла, апошні пікет ліцэісты правялі ўвечары 18 верасня насупраць будынка гарадскога аддзела адукацыі. «А цяпер да ліцэістаў павінен прыйсці супрацоўнік інспекцыі па справах непаўналетніх, які мусіць папярэдзіць дзяцей аб адказнасці за правядзенне несанкцыянаваных пікетаў», – сказаў Маслюкоў.

**Марат ГАРАВЫ**

## Ад рэдакцыі

У нумары газеты за 19 верасня была змешчана інфармацыя «Жонкі зніклых на нарадзе АБСЭ», у якой паведамлялася, што «21 верасня ў рамках шостай нарады АБСЭ па выкананьню абавязательстваў у галіне правоў чалавека, якая працуе ў Варшаве, пройдзе брыфінг «Гучныя справы: Беларусь і Украіна», на якім перад дэлегатамі нарады выступяць жонкі рэпрэсаваных беларускіх апазыцыянераў». Сярод іншых было названа імя Зінаіды Ганчар. Як нам паведаміла спадарыня З.Ганчар, яна не выязджала ў Варшаву, не прысутнічае на нарадзе і не планавала сваё выступленне.

Рэдакцыя прыносіць прабачэнні спадарыні Зінаідзе Ганчар і чытачам за недакладную інфармацыю.

## Выданне «Свободных новостей» прыпыненае

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Сапраўды, Атрошчанка, уладальнік фірмы па вытворчасці жаночай бялізны «Серж», валодае 60 працэнтамі акцый газеты – на падставе своеасаблівага джэнтльменскага пагаднення, ніводзін з пунктаў якога ён не выканаў. Напрыклад, замест абяцаных інвестыцый мы атрымалі даволі сціплы крэдыт, які даўно яму вярнулі. Атрошчанка не падпісаў ніводнага фінансавага дакумента газеты і апошнія дзевяць месяцаў у рэдакцыі не з'яўляўся». На думку Уліцёнка, тое, што адбываецца, хутчэй за ўсё звязана з палітычнай пазіцыяй газеты і «вельмі нагадвае сітуацыю вакол расійскай тэлекампаніі НТВ, калі рукамі асноўнага акцыянера было адсунута непажаданае для Крамля кіраўніцтва». «Калі суд стане не на наш бок, значыць, так яно і ёсць. У адваротным выпадку гэта можна будзе расцэньваць як выхадку «новага беларуса», – мяркуе Уліцёнак. Ён звярнуў увагу на тое, што заява Атрошчанкі з'явілася напярэдадні завяршэння працэдуры перарэгістрацыі выдання, пасля якой уладальнік фірмы «Серж» ужо не ўваходзіў бы ў склад заснавальнікаў, а таксама перад падпісной кампаніяй. «Нам тэлефануюць чытачы і пытаюцца, ці варта падпісвацца, калі калектыў рэдакцыі можа змяніцца, – сказаў Уліцёнак. – Няясн асць сітуацыі пагражае фінансавым ударам па газеце». Паводле слоў галоўнага рэдактара, пасля прэзідэнцкіх выбараў Атрошчанка прапанаваў супрацоўнікам газеты апублікаваць на яе старонках пакаяннае пісьмо з прызнаннем памылковасці сваёй пазіцыі: «Атрошчанка заявіў, што гэта дапаможа яго бізнесу і ўрэшце рэшт самой газеце. Але мы не пайшлі на здзелку з сумленнем». Уліцёнак паведаміў, што цяпер калектыў рэдакцыі рыхтуе да выпуску чарговы нумар газеты, які павінен выйсці 21 верасня. Ён не выключыў, што бліжэйшым часам можа быць забарона на выхад выдання з боку Дзяржкамітэта па друку, куды Атрошчанка паведаміў аб сваім рашэнні. Галоўнаму рэдактару «СН» пакуль не ўдалося звязацца з кіраўніком камітэта Міхаілам Падгайным.

Спробы карэспандэнта БелаПАН звязацца з Атрошчанкам і Падгайным таксама не ўвянчаліся поспехам.

**БелаПАН**

## Лукашэнка ўступіў у прэзідэнцтва

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Прыкладам, пасол ЗША Майкл Козак адмовіўся браць удзел у цырымоніі інаўгурацыі Аляксандра Лукашэнкі. Прэссакратар міністэрства замежных справаў Павел Латушка сказаў, што кіраўніцтва Беларусі з разуменнем ставіцца да гэтага кроку з боку ЗША, бо лічыць, што гэта адбылося з-за жалобы па ахвярах тэрактаў у гэтай краіне. Праўда, невядома, якая прычына насамрэч называлася ў афіцыйнай адмове амерыканскага пасла ўдзельнічаць у цырымоніі інаўгурацыі А.Лукашэнкі.

У Палацы Рэспублікі пасля віншаванняў, у тым ліку ад патрыярха Філарэта, А.Лукашэнка зноў, як у 1994 годзе, сказаў прамову, прычым па-беларуску і паруску, і пакляўся на Канстытуцыі Беларусі верна служыць беларускаму народу, ахоўваць правы і свабоды чалавека, добрасумленна выконваць законы. У сваёй прамове А.Лукашэнка падзякаваў усім тым, хто за яе галасаваў 9 верасня, падкрэсліўшы, што на гэтых выбарах за яго нібыта прагаласавала на паўмільёна беларусаў болей, чымсьці 7 гадоў таму на першых выбарах прэзідэнта Беларусі. Ён таксама асобна выказаў падзяку «сябру і калегу» расійскаму прэзідэнту У.Пуціну за ягонае стаўленне да прэзідэнцкай кампаніі ў Беларусі. Разам з тым Аляксандр Лукашэнка зноў гаварыў пра тое, што ён хоча быць усіхнім прэзідэнтам і будзе змагацца за тых, хто сёлета галасаваў не за ягоную кандыдатуру.

Далей дзея перанеслася вонку – на Кастрычніцкую плошчу. Другая частка цырымоніі адбывалася на тле агромністага чырвона-зялёнага стэнда з перадвыбарным лозунгам А.Лукашэнкі «Вместе. За сильную и процветающую Беларусь!» Прамова новаінаўгураванага кіраўніка дзяржавы была прысвечана таму, якая ў нас файная армія, і тэме нацыянальнай бяспекі. «Сёння можна сказаць, што прадказанні прадракальнікаў і астролагаў усіх масцей аб непазбежным краху Беларусі праваліліся. Наша дзяржава не толькі выстаяла, але і значна ўмацавала свае пазіцыі ў свеце», – заявіў А.Лукашэнка. Пасля гэтага міністр абароны Леанід Мальцаў зачытаў тэкст прысягі, і прадстаўнікі Узброеных Сілаў, Камітэта дзяржаўнай бяспекі, унутраных войскаў міністэрства ўнутраных справаў, памежных і чыгуначных войскаў, падраздзяленняў міністэрства па надзвычайных сітуацыях пакляліся патрыёнім «Присягаем!» на вернасць беларускаму народу і асабіста прэзідэнту А.Лукашэнку. Што, трэба адзначыць, надта дзіўна. Пасля гэтага раздаліся выбухі салюта і пачаўся парад.

Вось толькі не ва ўсяго беларускага народа такі самы ўрачысты настрой на наступную «пяцігодку».

**Аддзел інфармацыі**

# Зеркало треснуло ...

## Белорусские СМИ, как и общество, разделились на два лагеря

*В ходе прошедшей президентской кампании белорусские государственные СМИ, как никогда прежде, выявили свою сущность и истинное предназначение в системе отношений «государство – общество – гражданин». Являясь общенациональным достоянием, «государственные» газеты, телевидение и радио стали фактически одним из звеньев нынешнего государственного аппарата.*

Нам могут возразить, что в период избирательных кампаний и само общество, и средства массовой информации разделяются в своих симпатиях по отношению к кандидатам на властные должности. С этим можно согласиться. При одном условии: если разговор идет о демократическом обществе со свойственным ему плюрализмом мнений и отсутствием страха за высказываемые убеждения. Однако невозможно экспропалировать данную модель в общество, где большинство СМИ, в том числе наиболее мощные средства массовой коммуникации – ТВ и радио, полностью захвачены и подчинены интересам этой власти.

Именно такого рода государство создано на территории Республики Беларусь за последние семь лет. И не удивительно, что еще задолго до президентских выборов ныне действующая власть поделила общество, а следом за ним и средства массовой информации на «своих» и «чужих», на сторонников и противников конкретной личности – А.Лукашенко.

### В услужении власти

Выборы еще не состоялись, а назначенный председатель Центральной избирательной комиссии Л.Ермошина сделала заявление, что такой грязной избирательной кампании она еще не видела. И с ней следует согласиться. Вся та грязь, ложь и клевета, которые можно было только придумать, выплеснулись на «врагов» кандидата от власти через так называемые государственные СМИ – печать, телевидение и радио. В этом деле им была гарантирована абсолютная безнаказанность.

Как и всегда, на переднем крае борьбы с «радикальной оппозицией» находились известные пропагандисты голубого экрана и радиоэфира, а также их соучастники – «ремесленники» PR-технологий из печати. Примеров тому – множество. Чего стоит одна операция «Белый аист», растиражированная сомнительно-законным путем на страницах «самой солидной» газеты нового времени – «Советской Белоруссии». Конкретный разговор на тему этой публикации еще впереди, но уже сегодня можно сказать, что руководитель «СБ» допустил нарушение целого ряда правовых положений, в том числе законодательства, регулирующего деятельность секретных служб.

В своем стремлении угодить «хозяевам» государственные СМИ оказали им «медвежью услугу». Отказавшись обеспечить равный доступ оппонентов А.Лукашенко к государственным СМИ, они полностью перечеркнули обязательства, взятые нынешней властью, перед ОБСЕ и всем мировым сообществом. В итоге почти все эфирное время, посвященное избирательной тематике, досталось одному известному кандидату (95 % – на радио, 81 % – на телевидении и 88 % – в государственной прессе). Уже одного этого отступления от прописных истин избирательного права достаточно для того, чтобы выборы не были признаны честными, свободными и справедливыми.

### Делали все, что могли

На наш взгляд, белорусская демократическая пресса сделала все, что могла в крайне неблагоприятной, можно сказать, враждебной обстановке, которую создали для них представители властных структур. Зачастую действия чиновников в отношении редакций ряда независимых изданий трудно было отличить от заурядных разбойных нападений с последующим грабежом редакционного имущества. Как противозаконное вмешательство в деятельность редакций следует расценить аресты и изъятия тиражей независимых газет, безосновательные проверки «налоговиков» и органов финансовых расследований.

Проявлением чиновничьего беспредела стало временное закрытие в самую горячую пору избирательной кампании частной типографии «Меджик», где печатались многие независимые газеты. А венцом государственного вмешательства в дела СМИ является введение такого, казалось бы, позабытого рудимента прошлого как цензура.

Но власть пошла еще дальше. По надуманным основаниям (за якобы клевету в отношении действующего главы государства) возбуждены уголовные дела в отношении редакций газет «Рабочы», «Правінцыялка» и «Пагоня». В отношении последней прокуратура Гродненской области поставила вопрос о прекращении ее деятельности. О каких открытых выборах можно говорить в таких условиях!

### Наказание и всепрощение

Разделив общество и прессу, власть использует испытанный воспитательный метод кнута и пряника. Механизм «кнута» запущен по полной программе против независимой прессы и демократических журналистов.

«Пряники» благодатным дождем сыплются на отличившиеся государственные СМИ. Своей беззаветной преданностью «делу партии» они заработали себе индульгенцию на любые нарушения законодательства и попрание норм журналистской этики. Выйдя из-под действия Закона о печати, журналисты этих СМИ перестали быть журналистами в собственном смысле слова, а превратились в штатных чиновников при органах исполнительной власти. Соответственно средства массовой информации, в которых они трудятся, давно и прочно стали пропагандистским рупором «ведомства правды», подконтрольного в свою очередь президентской администрации.

### Кому выгодно?

Вопрос в общем-то риторический. Практика деятельности государственной пропагандистской машины красноречиво свидетельствует, что система власти, построенная на обмане народа, может себя сохранить только продолжая свою прежнюю политику. Для этого ей как минимум необходимо: 1) дальнейшее усиление силовых структур, и в первую очередь специальных подразделений, охраняющих безопасность верхушки власти; 2) развитие секретных служб, увеличение числа осведомителей («сексотов») с целью разложения демократического движения и постоянной слежки за ее лидерами; 3) перераспределение доходов с ужесточением финансового пресса в отношении деятельной части населения; 4) создание видимости стабильности и благополучия с одновременным запугиванием населения угрозой войны, исходящей от цивилизованных государств, развертыванием шпиономании и укоренением в умах простых граждан враждебного отношения к инакомыслящим.

Мы уже не раз обсуждали тему: возможно ли создание в Беларуси зоны безмолвия? Просчитывая все варианты, приходили к выводу, что это будет настолько противоестественно при нынешнем развитии мировых коммуникативных сетей и геополитическом положении нашей страны, открытой всем ветрам, что все попытки осуществить такой замысел тщетны. Они могут привести к дальнейшей утрате остатков авторитета власти как внутри страны, так и за ее пределами. Это – прямой путь к еще большей изоляции и напрасная трата времени. Наконец, мы сами себя при этом выталкиваем из мирового сообщества, куда нас тянут буквально за уши.

Треснувшее зеркало склеить невозможно. В нашем случае «зеркало общества» – это свободная плюралистическая пресса. Только она может адекватно отражать события, происходящие в нашей государственной и общественной жизни, и выставлять на суд общественности «проколы» действующей власти. При выявлении нарушений надо исправляться власти, а не пенять на «зеркало», то есть прессу. Это уже давно поняли в странах демократии. Пора и нам задуматься.




**Михаил ПАСТУХОВ, Юрий ТОПОРАШЕВ, юристы Центра правовой защиты СМИ при ОО «Белорусская ассоциация журналистов»**

